славу ў нашым сялянсьцьве. Ужо-б яны паказалі і Кузькіну, і ня Кузькіну... Шчасьце, што, як кажуць, не дае Бог такім рог...

Ды куды горш тое, што гэная спадчына прышчэпленых таталітарызмам звычак пакрывае й куды шырэйшыя колы грамадзянства, у якіх дзеля гэтага й тыя бязмыльныя й бязрогія панкі знаходзяць міжвольнае, аб'ектыўнае падтрыманьне. Бо ці-ж малы ў нас сяньня круг людзей, што арганічна ня травяць ніякае дыскусіі, заўсёды падазраючы ў ёй сварку, і ніякае крытыкі, авансам хрысьцячы яе лаянкай? Або — звычайнага, бязьвіннага гумару, ня кажучы ўжо пра сатыру? А якая-ж можа быць — ня тое, каб свабода, а проста дзейнасьць, функцыянаваньне слова бяз дыскусіі й крытыкі, дый нат бяз гумару й сатыры?

Праўда, тут цесна вяжацца й другі, проста супрацьлежны першаму выяў тае-ж спадчыны таталітарызму, дакладней — аднаго з найпракуднейшых ягоных гатункаў чырвонага, бальшавіцкага колеру. Ён карэніцца ў славутай бальшавіцкай «самакрытыцы». Гэная-ж «самакрытыка» належыць да тых невялікіх, але характэрных розьніцаў, што ткі ёсьць між такімі роднымі братамі, як сталінаўскі й гітлераўскі таталітарызмы-«фашызмы». Бо тымчасам, як гітлераўцы ня цярпелі наагул ніякае крытыкі (навет тэатральная крытыка блізу што не дапушчалася), «бацька ,сябра й настаўнік» Сталін асабіста вынайшаў і навет прыпісаў свой славуты рэцэпт «самакрытыкі». Гэтая хітра выдуманая адцяжына для найпрасьцейшых патрэбаў слова й крытыкі з аднаго, і для ўсіх нізкіх, г. зв. масавых інстынктаў — з другога боку (і найбольш) — дазваляе крытыкаваць праявы і, галоўна, асобы, ня зьвязаныя ізь сьвята-недатыкальнай «генэральнай лініяй», паводля таго геніяльнага рэцэпту, прыпісанага самым «найгеніяльным»: абы 5% праўды... У практычным ужываньні гэты рэцэпт, як ведама, знайшоў сабе клясычную «народную» маскоўскую формулу: «Крой, Ванька, Бога нет»... Такое «крыцьцё» «в Бога» і г. д. і становіць сабой, як ведама, адзіны фактычны зьмест тае «самакрытыкі».

Ня дзіва, што людзі, якія за даўжэйшае жыцьцё пад саветамі звыклі бачыць адзіны выяў свабоды слова, дыскусіі й крытыкі ў гэткай во «сталінскай самакрытыцы», падыходзяць з такою меркай і да запраўднае свабоды слова, запраўднае дыскусіі й крытыкі. І ясна, што ў тых, каму гэтая «самакрытыка» далася ў знакі, паўстае адразу й тая боязь ды адраза да ўсякае крытыкі, да ўсякае дыскусіі й свабоды слова наагул. Але затое, тыя другія, што цешыліся ды не нацешыліся, а добра навытарыліся — «набілі руку» на гэнай «самакрытыцы», адразу-ж і «разгортаюцца» зь ёю на ўсю сваю багатую шырыню пад сьцягам свабоды слова. І ліюць, як із цэбра, «лістоўкі», «памфлеты» — шырокае мора добра празванага цяпер «пашквілізму». І як суняць іх, калі — свабода? «Крой, Ванька»...

Дык трэба, каб людзі найперш усьведамілі й на практыцы пабачылі ўсю розьніцу паміж запраўднай свабодай слова ў такіх выявах ейных, як дыскусія й крытыка, гумар і сатыра ды — свабодай, гэтак кажучы, брахні — «самакрытыкі» (ці, пазаходняму — брукоўшчыны, бульваршчыны), сваркі, лаянкі й кляцьбы. Розьніца тут не ў аб'ектах, як скажам, думаюць, паводля чутак, некаторыя нашыя суродзічы з францускае зоны, для якіх прыкладам «пашквіль» — гэта ўсякае пісаньне пра мінуўшчыну каго або чаго-небудзь (пры гэтым, быццам-бы, вызначаецца й тэрмін для гэтае забароненае «пашквільнае мінуўшчыны» — да 1945 г.), тымчасам як на цэлым сьвеце гэтае слова азначае сьведамую брахню, незалежна ад таго, на мінуўшчыну, цяпершчыну ці будучыню (калісь літаратурная тэрміналёгія, апрацаваная Інстытутам Беларускае Культуры пад кіраўніцтвам самога Я. Купалы, прапанавала для яго беларускі тэрмін «брахнепіс»). Розьніца між дыскусіяй, крытыкай з аднаго боку, і ўсёй, агулом бяручы, «самакрытыкай» з другога — у іхнай прынцыповасьці, уаргумэнтаванасьці, абгрунтаванасьці — што да зьместу, і культурнасьці — што да формы (ведама, не разумеючы апошняе ў духу тае гіпэртрафанае паненскасьці супэр-тактыкаў, аб чым нам даводзілася пісаць сваім часам у перадавым артыкуле, прысьвечаным «такту й нятактам»). Сталінскіх «5% праўды» тут выразна замала... У кажным разе, брахні, галаслоўнасьці, беспадстаўнасьці, перакручваньня й падтасоўваньня тут аніводным працэнтам не павінна тхнуць.

Дзеля гэтакае прынцыповае, уматываванае, уаргумэнтаванае, абгрунтаванае ды культурнае крытыкі й дыскусіі балоны «Бацькаўшчыны» заўсёды адчыненыя, не зважаючы на тое, зь якіх пазыцыяў гэткая крытыка й дыскусія не вяліся-б (і зразумела, пакідаючы за сабою зусім прыроднае права ўдзелу із сваіх собскіх пазыцыяў). Што-ж да ўсяе «самакрытыкі» - «пашквілізму», дык шчырыя працаўнікі гэтае дзялянкі могуць быць зусім спакойныя, як і рэшта грамадзтва: да гэтага ўзроўню «Бацькаўшчына» ніколі не маніцца абніжацца. На гэткія рэчы ў нас можа быць толькі адно з двух: або поўнае маўчаньне, ігнарацыя й проста неспасьцераганьне, або — судовая справа законным шляхам ( увыпадку падсуднасьці дзеяньняў і мэтазгоднасьці ўсяе справы). Іншага ад нас ніхто й ніколі не дачакаецца.

Што «самакратычная літаратура» шырыцца й шырыцца ўсе больш — нам гэта ня выдаецца нечым страшным. Рэакцыя чытацкае масы на яе зусім здаровая й блізкая, калі не ідэнтычная нашай. Доля мыльных бурбалак ёй наканаваная. Ня трэба гэтым бурбалкам ані «байкотаў», ані забаронаў — рассыпяцца ў пыл самі. Калі-ж хто хоча «байкатаваць» вольнае, незалежнае й праўдзівае слова — няхай сабе на здароўе байкатуе. Адно каб шчыра, не запушчаючы аніводняга вока ў «байкатаванае» ціхама. А калі гэткі «байкот» адміністрацыйным парадкам накідаецца цэламу асяродку (Міхэльсдорф, Ватэнштэт) — дык можна сказаць толькі адно: мае ён якраз гэтулькі супольнага із свабодай слова, свабодай наагул і дэмакратыяй, колькі маюць зь імі дачыненьня «найдэмакратычнейшыя» парадкі сталінаўскіх «народных дэмакратыяў».

Свабода слова — найвялікшае дабрадзейства дэмакратыі. Мы можам толькі ганарыцца, што нашае гаспадарства — БНР — абвесьціла гэтую свабоду, побач зь іншымі, навет раней за абвешчаньне свае незалежнасьці. Цяпер-жа, калі змаганьне за гэтую свабоду сталася таксама вызначальным для падзелу сьвету на станы волі й гвалту, дэмакратыі й дэспатыі (што яскрава сьцьвердзіла хоць-бы нядаўная канфэрэнцыя сяброў ЗН у справе свабоды прэсы й інфармацыі ў Жэнэве) — мы можам толькі сьцьвердзіць сваё месца ў гэтым змаганьні: пад вялікім і гордым сьцягам свабоды, без аблыжных абмежаньняў, гвалтаў-«байкотаў» і ўсякіх іншых фокусаў баязьліўскага й злосьніцкага бясьсільля.

# АДУСЮЛЬ

## ЗВАРОТ ДА ЗН АД ІМЯ ПРЫГНЕЧАНЫХ НАРОДАЎ

**Лёндан (ПАТ).** 15 красавіка сёлета ў Лёндане адбыўся сход перадавых палітычных дзеячоў народаў з-за зялезнае заслоны, які паслаў тэлеграмай зварот да арганізацыі Задзіночаных Нацыяў. Тэлеграма высланая на рукі дэлегата Чылі, амбасадара Гэрнак Санта Круз, аўтара прапановы, каб органы ЗН правялі дасьледваньне ў справе камуністычнага замаху стану ў Чэхаславаччыне.

У сваёй тэлеграме згаданыя дзеячы, выступаючы ад імя Баўгараў, Беларусаў, Латышоў, Летувісаў, Палякоў, Румынаў, Славакоў, Украінцаў, Чэхаў, Эстонцаў, Югаславаў (Сэрбаў, Харватаў і Славенцаў), із прызнаньнем вітаюць заявы, робленыя апошнім часам кіраўнікамі Заходніх Дэмакратыяў у сувязі із стала ўзрастальным ціскам савецка-камуністычнае імпэрыялістычнае экспансіі.

Падпісаныя ўрачыста пратэстуюць супраць рэжыму, накінутага народам усходняе Эўропы сілаю, подступам і зрадаю. Яны асуджаюць тэрарыстычныя лады, што бессаромна крыюцца падназовам «народных дэмакратыяў», а ў існасьці становяць сабою паліцыйныя гаспадарствы, абапёртыя на нішчэньні ўсіх асноўных правоў чалавека й грамадзяніна, на судаўніцтве матлоху, цынічна званым «народнымі судамі», і на эканамічнай эксплёатацыі на карысьць сусьветнае савецка-камуністычнае імпэрыі.

Заходнюю Эўропу, — сьцьверджае тэлеграма, — дасца ўратаваць адно ўсунуўшы Саветы з усходняе Эўропы. Навет фармальна Саветы шмат разоў гвалцілі § 4 арт. 2 Хартыі ЗН пагрозаю або ўжыцьцём сілы супраць іншых народаў. Згвалчаны таксама й арт. 34 Хартыі, бо Расея, пазбаўляючы свабоды паў-Эўропы, стварыла палажэньне, што пагражае ўтрыманьню сусьветнага міру й бясьпекі.

«Дзеля вышэйшага, — сьцьверджае тэлеграма, — ніжэйпадпісаныя спадзяюцца, што Рада Бясьпекі не абмежыць свае акцыі на дасьледваньні ролі, якую адыйграла Савецкая Расея ў Чэхаславаччыне, але і ўздыйме безадкладнае даходжаньне ў справе падобнае дзейнасьці расейскага камунізму ўва ўсіх іншых краёх Сярэдня-Ўсходняе Эўропы.»

Тэлеграму падпісалі: Матзанкіеў, адзін із правадыроў Баўгарскае Сялянскае Партыі, генэрал Леў Прхаля, старшыня Чэскага Нацыянальнага Камітэту, праф. Орас, прадстаўнік Эстоніі, Радытыс, старшыня Рады Латыскіх Арганізацыяў у Вялікабрытаніі, Баёрынас, прадстаўнік Летувы, Т. Філіповіч, былы амбасадар Польшчы ў ЗША, Нікулеску-Бузэсты, былы міністар замежных справаў Румыніі, П. Прыдавок, старшыня Славацкага Нацыянальнага Камітэту, Панчук, старшыня Згуртаваньня Ўкраінцаў у Вялікабрытаніі, праф. Жук-Грышкевіч, старшыня Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі, др. М. Гаўрыловіч, сябра Юагслаўскага Нацыянальнага Камітэту ў Лёндане.

## РОЗНАЕ

**Вена (ДЭНА-ІНС).** Як падае з Букарэшту тутэйшая газэта «Вэльтпрэсэ», румынскі габінэт быццам-бы пастанавіў падрыхтаваць гэтым летам далучэньне да СССР Румыніі, як 17-е савецкае рэспублікі.

— Рада Бясьпекі Задз. Нацыяў утварыла асобны камітэт дзеля дасьледваньня падзеяў у Кашміры. У гэты камітэт увайшлі прадстаўнікі ЗША, Ангельшчыны, Канады, Бэльгіі, Калюмбіі й Кітаю. Маюць яны ў Кашміры правесьці народнае галасаваньне, каб сам народ выказаўся, куды ён хоча прылучыцца: да Індыі ці Пакістану, а мо хоча быць зусім незалежным. — Апошнім часам там былі братабойныя сутычкі паміж Індусамі й Магамэтанамі.

— Савецкі камандант Бэрліну Коцікаў прызнаўся, што савецкія ўлады хапалі людзей з амэрыканскае зоны Бэрліну. Схопленыя аднак мелі быць цяжкімі крымінальнымі злачынцамі, якіх не хацела лавіць «прадажная паліцыя амэрыканскае зоны». І давядзі цяпер, што схопленыя ня былі крыміналістымі...

— Барсукоў у Нямеччыне завялося так шмат, што прычынілі яны шкоды на палёх на 4 мілёны марак. У Вышняй Баварыі налічваюць да 7.000 штук барсукоў, якія нараз зьнішчаюць цэлыя палі.

— Саветы паставілі ў Турынгіі на мяжы 7.500 нямецкіх паліцыянтаў, зь якіх уцякло ў амэрыканскую зону роўна адна траціна. Нішто сабе, добрых маюць «абаронцаў граніц».

# НА ТЭМЫ ДНЯ

## «РЭПРЭЗЭНТАЦЫЯ» Й ПРАЦА

Аб рэпрэзэнтацыі пачалі крычаць аж зашмат. І ўсё крычаць, што ў нас няма рэпрэзэнтацыі. Хто гэта крычыць? А гэта крычаць тыя, што хочуць быць гэтымі «рэпрэзэнтантамі». Пазашываўшыся сваім часам у цёмныя куткі, або наагул няздольныя да ніякае рэальнае працы, яны ўважаюць, што ўсё-ткі пара ўжо сёе-тое ўзначаліць, пара зрабіцца «рэпрэзэнтантам». Пагляды на гэтую рэпрэзэнтацыю ў іх арыгінальныя і ў кажнага адменныя.

— Я маю найлепшы капялюш і белыя рукавічкі, — кажа адзін. — Я, разумееце, зусім эўрапейчык. Вось я ўмашчуся на акце 25 сакавіка, сяду й буду вас «рэпрэзэнтаваць», а вы паказвайце на мяне пальцамі ды галасуйце на ўвесь сьвет: «Гляньце, якая цаца сядзіць!»

Другі йначай мяркуе:

— А я то што? Затычка ад парожнага хлява? Ды мне толькі выпадак перашкодзіў стацца за прэзыдэнта, казаў той, неўспадзеўкі ножку падставілі. А вы ня хочаце прызнаваць майго аўтарытэту? Гэта-ж папросту злачынства!

Трэйці заяўляе:

— Но, но! Як-жа можа быць безь мяне? Як важыцеся без майго дазволу выступаць ад імя народу? Вы-ж ведаеце, што мне пэўныя чыньнікі даручылі долю Беларусі, а што найважнейшае — галоўную касу.

Як то гаворыцца: кажны крук пасваему крача, і кажны мерае на свой капыл. Дагаворваюцца, навет, да таго што быццам якаясь група угібала ўладу (група «Крывічоў»), дзе «толькі адзінкі маюць карысьць». Цікавасьць, якую гэта ўладу ўгібалі? І якую з гэтага карысьць маюць адзінкі? Тут, пэўна, ідзе аб тэй уладзе і аб тэй «карысьці», што рояцца ў галовах нядошлых «прэзыдэнтаў» і розных афэрыстых. Бо якая можа быць улада ў нашых абставінах ДП і якая можа быць з гэтага карысьць асабістая?

Што некаторыя асобы (з гэтых крыкуноў) глядзяць на грамадзкія становішчы, як парасяты на карыта, дык гэта іншая рэч. І што яны патрапляюць высысаць з кажнае грамадзкае справы штось для кішані, гэта ўсё ведама. Але якая карысьць зь іх агульнай справе? Такая вось, якую гэтыя «рэрпрэзэнтанты» давалі дагэтуль, інакш кажучы, як з казла малака. Дай Божа, каб ня было хаця шкоды. Бо, ганяючыся за «рэпрэзэнтацыяй», гэтыя людзі любяць усадзіць нос не ў сваё.

Што рэпрэзэнтацыя ў нас слабая, дык гэта й бяз крыку ведама. Узяць вось найважнейшыя аб'екты, як прэсу й літаратуру. Як-жа ўбога выглядае яна супраць іншых нацыянальнасьцяў! Гэта-б яшчэ паўбяды, бяручы на ўвагу нашую, раўнуючы невялікую колькасна, эміграцыю. Горшая бяда ў тым, што ладная частка выданьняў, асабліва тых, што крычаць аб рэпрэзэнтацыі, сьціравалася на хуліганска-пашквільную дарогу, якая пачала прынаджваць некаторых навет паэтаў. А чытаць няма чаго, ні сабе, ні людзям паказаць.

Як рэпрэзэнтуецца нашая арганізацыйнасьць і арганізаванасьць? Усё-ткі дзясяткі тысячаў нашых людзей ёсьць на эміграцыі.. А колькі зарганізавана ў нашых лягерах? Нязначная колькасьць. А колькі няпрыемнасьці й сораму нацярпеліся прадстаўнікі нашага Дапамаговага Камітэту ад амэрыканскіх уладаў за паводзіны нашых людзей, калі неаднойчы пачатая акцыя вылучэньня Беларусаў з пэўных чужых лягераў зводзілася на «пшык» рознымі «зарубежнікамі», «праваслаўнымі Палякамі» ды іншымі рэнэгатамі? Нарэшце тыя-ж самыя «рэпрэзэнтанты» спрычыніліся, прыкладам, да ліквідацыі лягеру ў Вогэнштраўсе. Карысная «рэпрэзэнтацыя» — няма чаго казаць!

Як рэпрэзэнтуецца нашае школьніцтва, наш тэатр, — аб усім аб гэтым можна было-б шмат гаварыць, аб карысьцях і заганах. Прыкладам, усім ведамая рэпрэзэнтацыя Тэатру Эстрады, як рэпрэзэнтацыя вельмі карысная для нас. Але, калі ў гэтых галінах зроблена нешта добрае, дык гэта людзьмі, якія ня крычаць аб тым, што ў нас няма рэпрэзэнтантаў, а ўсьцяж і сыстэматычна працуюць.

Царкоўная рэпрэзэнтацыя? Няхай Бог граха даруе, але каб гэтую рэпрэзэнтацыю назваць адпаведным імём, дык гэткі назоў быў-бы вельмі няпрыгожым...

Ведамая рэч, што рэпрэзэнтацыя цэнтральных кіраўнічых установаў — справа не апошняе, а можа найпершае вагі. Але й тут усё будзе залежыць ад рэальнае працы й вынікаў гэтае працы. Хоць сто разоў дэмакратычна й надзвычайна тактычна будзе арганізаванае нашае цэнтральнае кіраўніцтва, але калі ўся роля будзе зводзіцца да «рэпрэзэнтацыі» капялюхом, белымі рукавічкамі ці індывідуальнымі, прыватнымі асьпірацыямі, як гэтую рэпрэзэнтацыю ўяўляюць крыкуны й афэрыстыя — на сабаку вартая была-б такая «рэпрэзэнтацыя».

Наш эміграцкі стан вымагае натужнае будзённае мазольнае працы ў усіх галінах жыцьця культурнае нацыі. І толькі вынікі гэткае працы будуць найлепшымі нашымі рэпрэзэнтантамі. А пустазвонства, амбіцыі, белыя рукавічкі або яшчэ горшае — сувязі зь яўнымі варагамі нашае справы, чужымі ці сваймі рэнэгатамі так паможа, як кашаль пры хваробе. І якраз да гэтага ўжо спрычыняюцца тыя, хто найбольш крычыць аб рэпрэзэнтацыі... **Старэйшы.**

Рэдакцыя шчыра дзякуе ўсім за надасланыя ёй вялікодныя віншаваньні, упаасобку — за асабліва сардэчныя зычэньні — сьвятару а. **Ал. Казлоўскаму** (Зыгмарынген) і сп. **М. Бакуновічу**.

# Ліст у рэдакцыю

Мы, былыя сябры Беларускае Цэнтральнае Рады, 27. 1. 1948 г. праз газэту «Бацькаўшчына» (№ 3 ад 8. 2. 1948 г.) ужо паведамлялі беларускае грамадзянства аб тым, што «БЦР на сваім апошнім паседжаньні 24. 9. 1945 г. разьвязалася й, як такая, перастала йснаваць. Таму ўсялякія выступленьні Р. Астроўскага ад імя няйснуючае БЦР зьяўляюцца няпраўнымі й фікцыйнымі», шкоднымі й дэзарыентуючымі. Нам здавалася, што нашае выясьненьне будзе зусім дастатковым папярэджаньнем, каб Р. Астроўскі спыніў свае больш, чым дзіўныя й пазбаўленыя ўсялякіх праўных падставаў выступленьні. Не зважаючы аднак на гэта, ён і далей зь няведамай бліжэй нам мэтай вядзе акцыю «адраджэньня» БЦР: зьбірае якіясь «нарады», нейкім «беларускім спэцкорам» дае «інтэрв'ю», выдае «Дэкрэты» й г. д. У гэтым-жа самым часе зьяўляюцца розныя ратитарныя лісткі, рэдактары якіх або сьведама й знарок друкуюць гэтыя ягоныя фальшыўкі, або безадказна робяць тое, чаго самі добра ня ведаюць, пашыраючы гэтае ашуканства ў нашым грамадзянстве.

Бяручы ўсё гэта на ўвагу, мы чуемся зноў абавязанымі даць некаторыя новыя выясьненьні грамадзянству, каб усьцерагчы яго ад памылковых крокаў:

1. На 23 верасьня 1945 г. Р. Астроўскі склікаў у Вюрцбургу паседжаньне Пленуму БЦР, на парадак дня якога сам паставіў адно пытаньне: разьвязаньне БЦР. Пасьля ўсебаковага абмеркаваньня гэтага пытаньня Пленум БЦР прыйшоў да выснаву, што БЦР сваю ролю споўніла й далей існаваць і дзеіць ня можа. Таму на прапазыцыю Р. Астроўскага, які сам і кіраваў паседжаньнем Пленуму, Пленум БЦР 24. 9. 1945 аднагалосна пастанавіў аб разьвязаньні БЦР і перадачы ўсяе наяўнае касы — Беларускаму Нацыянальнаму Цэнтру. Гэтая пастанова Пленуму БЦР ёсьць апошні праўны дэцызія БЦР, якая й замыкае сабою ейную гісторыю.

2. Раптам, у вапошнім часе, пасьля двухспаловайгадовае бязьдзейнасьці, зусім нечакана для нас, Р. Астроўскі вусна й пісьмова робіць нам прапазыцыі «аднавіць» БЦР. Аднак, на гэтыя прапазыцыі, спрэчныя із пастановай апошняга паседжаньня Пленуму БЦР і найвышэйшым дабром нашае нацыянальнае справы, мы адказалі адмовай, зазважыўшы пры гэтым, што аднаўленьне БЦР спрычынілася-б да разьбіцьця нашага грамадзтва, што толькі й патрэбна варагом беларускага нацыянальна-вызвольнага руху.

3. Пасьля гэтага Р. Астроўскі кідае сваю акцыю «аднаўленьня» БЦР, а выдае 25. 3. 1948 г. зв. «Дэкрэт» ужо аб «рэарганізацыі» БЦР.

Дзеля таго, што сваю няпраўную «рэарганізацыю» ён «абгрунтоўвае» на няйснуючых пастановах 2-га Ўсебеларускага Кангрэсу й на хвалышаваньні мала каму ведамага Статуту БЦР, мы спашлёмся на адпаведныя дакумэнты:

а) У «Дэкрэце» Р. Астроўскі піша: «...Рада павінна была быць рэарганізаваная на тых асновах, якіх вымагалі пастановы Кангрэсу». Выясьняем, што 2-гі Усебеларускі Кангрэс ніколі ня прыймаў ніякіх пастановаў аб рэарганізацыі БЦР; аб гэтым у пастановах Кангрэсу нат і мовы няма. Хто добра не знаёмы із пастановамі Кангрэсу, той можа зь імі пазнаёміцца паводля газэты «Раніца» № 29/191 ад 23. 7. 1944 г. (у публікацыі сябры Прэзыдыюму Кангрэсу К. Езавітава) і тэй-жа газэты «Раніца» № 36/198 ад 3. 9. 1944 г. (у «Пратэсьце БЦР» ад 20. 8. 1944, падпісаным самым Р. Астроўскім).

б) Далей ў «Дэкрэце» Р. Астроўскі заяўляе: «Прыймаючы, аднак, пад увагу тыя абставіны, у якіх прыйшлося працаваць БЦР да капітуляцыі Нямеччыны, ёй нельга было рэарганізавацца». Сьцьвярджаем, што ў самой БЦР ніколі не ставіла пытаньне аб ейнай рэарганізацыі пасьля капітуляцыі Нямеччыны. Ды й якжаж тады можна пагадзіць ніби плянаваную пасьля капітуляцыі Нямеччыны рэарганізацыю БЦР із разьвязаньнем яе якраз пасьля гэтае капітуляцыі й то на старанні самога Прэзыдэнта БЦР?

в) Затым у «Дэкрэце» чытаем: «Лічу сваім абавязкам, згодна з духам пастановаў 2-га Ўсебеларускага Кангрэсу і на падставе арт. 6 пункт «г» Статуту БЦР рэарганізаваць Раду на строга дэмакратычных асновах». Вось-жа кажны, уважліва прачытаўшы Статут БЦР, які быў апублікаваны у газэце «Раніца» № 15/235 ад 21. 3. 1945 г., мае магчымасьць сам пераканацца ў тым, што навет тады, калі Р. Астроўскі быў яшчэ Прэзыдэнтам БЦР, дык ня меў аніякага права праводзіць рэарганізацыю БЦР ці зьмяняць ейны пэрсанальны склад, бо «Вырашаючым органам БЦР зьяўляецца Пленум Рады» (арт. 14). Толькі «да кампэтэнцыі Пленуму Рады належыць: ... ж) прыняцьце Пастановаў вырашаючага значаньня» (арт. 17). Пленум Рады меў права прыймаць Пастановы, зь якімі Прэзыдэнт БЦР мог быць нат і нязгодны (арт. 26). Прэзыдэнт БЦР, паводля Статуту, меў толькі «права ініцыятывы пры складаньні прапановаў Пленуму Рады» (арт. 6 «ж»). Арт. 6 пункт «г», на які Р. Астроўскі хоча абаперціся ў сваім «Дэкрэце», не дае яму паўнамоцтваў паклікаць ці адклікаць радных БЦР. Вось як гэты артыкул сфармуляваны: «Да кампэтэнцыі Прэзыдэнта БЦР належыць... г) паклíканьне й адкліканьне радных БЦР, згодна з артыкулам 17 «е» Статуту». А арт. 17 «е» Статуту: «Да кампэтэнцыі Пленуму Рады належыць:... е) прадстаўленьне Прэзыдэнту БЦР кандыдатаў у сябры БЦР і прапазыцыі аб адкліканьні радных». Гэта значыць, што Прэзыдэнт БЦР мог толькі засьцьвярджаць прадстаўленых яму Пленумам Рады кандыдатаў у сябры БЦР ці зацьвярджаць Пастанову Пленуму Рады аб адкліканьні раднага із БЦР; ён мог паклікаць ці адклікаць радных БЦР толькі «згодна із арт. 17 «е» Статуту». Кампэтэнцыя-ж паклíканьня ці адкліканьня радных БЦР, як гэта відаць із Статуту, належыла выключна да Пленуму Рады, безь якога Прэзыдэнт БЦР ня меў права самачынна прыймаць ніякае дэцызіі. Толькі «у межах свае кампэтэнцыі Прэзыдэнт выдае Дэкрэты, Пастановы й Загады» (арт. 6 «ж»).

Але мы перакананыя, што Р. Астроўскі сам добра ведае Пастановы 2-га Усебеларускага Кангрэсу й Статут БЦР, добра таксама памятае, што ніводзін сябра БЦР без Пастановы Пленуму Рады ня быў паклíканы ў БЦР ці адкліканы зь яе й ня толькі тады, калі ўжо быў прыняты Статут БЦР, але яшчэ й да прыняцьця гэтага Статуту.

Такім парадкам, «Дэкрэт» Р. Астроўскага ад 25. 3. 1948, як і ўся ягоная акцыя «аднаўленьня» ці «рэарганізацыі» БЦР, ня маюць пад сабою ніякіх праўных падставаў і разьлічаныя адно на дэзарыентацыю людзей, мала ў гэтых справах паінфармаваных, і на разьбіцьцё адзінства нашага народу.

Мы спадзяёмся, што гэтае выясьненьне дапаможа нашаму грамадзянству заняць правільную пазыцыю ў падобных дзеяньнях Р. Астроўскага.

26. 4. 1948. (Подпісы).

---

хто такія ў запраўднасьці гэтыя лаўцы душаў людзкіх.

Голас нашага народу паходзіць не ад тых, хто выступае перад вамі. Прыслухайцеся, спадары, вы пачуеце голас запраўднага народу, і гэты голас гавора зусім ня тое, што вы тут чуеце ад прадстаўнікоў савецкае дыктатуры. Гэты запраўдны голас нашага пакутнага народу падаём мы, Displaced persons, якіх народ вызначыў за сваіх абаронцаў. Гэта мы — амбасадары нашага народу, які давярае нам гаварыць ад ягонага імя. Не здарма камуністычныя інтрыганы дакладалі й дакладаюць гэтулькі стараньняў, каб перацягнуць нас на свой бок і гэтым заткнуць горла праўдзе. Не, гэтага ня станецца! Мы сумленна будзем выконваць свае абавязкі перад сваім народам. Высака будзем уздымаць наш нацыянальны сьцяг, сьцяг справядлівасьці й волі. З пашанай будзем берагчы нашыя нацыянальныя традыцыі, веру й звычаі. Прыслухайцеся да голасу нашага народу! Будзьце справядлівыя; вы самі кажаце, што камунізм шкодны для вашага народу, а чаму-ж вы не зразумееце, што ён ня можа быць лепшым і для нас?

Прыслухайцеся да плачу нашых мацярок, жонак і сёстраў, сэрцы якіх перапоўненыя горам і тугой, якія аплакваюць ня толькі загіненых блізкіх сваіх, нас, выгнанцаў, але горкімі сьлязьмі абліваюць і свае собскія пакуты — голад, холад і зьдзекі. Яны прагінаюць у ваш бок свае крывава-мазалістыя рукі, каб разам з вамі працаваць, жыць у згодзе й прыязьні ды карыстацца хараством свабоды, як вы.

Дык слухайце! Мы разам з вамі хочам голасна пракрычаць на ўвесь сьвет: брацтва народам і справядлівасьць для ўсіх!

Адчыненце нам вашыя сэрцы, і няхай у іх зазьзяне ясны вогнік помачы нашаму народу, што нясецъ на сабе страшэнна цяжкое камуністычнае ярмо!

Лёндан.

### АД КАНЦЫЛЯРЫІ ПРЭЗЫДЭНТА БНР

У розных ратитарных «лістоўках» і «газэтах» пэўнага кірунку, а таксама шырака ў пушчаных з вуснаў у вусны чутках і плётках, зьявілася вэрсія, быццам Прэзыдэнт БНР М. Абрамчык «выслаў загад праваслаўнаму сьвятару Альхоўскаму перайсьці на вунію. Вышэйадзначаны сьвятар даў войстры адказ саматужнаму Прэзыдэнту»...

Канцылярыя Прэзыдэнта БНР даводзіць да ведама, што гэтую вэрсію нельга разглядаць ніяк інакш, як сьведамую й злосную, але вельмі прымітыўную выдумку, бо:

1) сп. Прэзыдэнту М. Абрамчыку прозьвішча праваслаўнага сьвятара Альхоўскага зусім няведамае, і ніякага ліставаньня з гэткаю асобай ім ніколі не вялося,

2) сп. Прэзыдэнт М. Абрамчык сам праваслаўны й ад свае праваслаўнае веры ані адступаўся, ані адступацца не маніцца, аднак аднолькава талерантна ставіцца да ўсіх веравызнаньняў у Беларусі. Дык і ня толькі, што ніколі й нікому падобных «загадаў» ці навет парадаў аб пераходзе зь якое-небудзь веры на іншую не даваў, але й даваць ня можа (ня кажучы ўжо аб тым, што наагул ніводзін Прэзыдэнт у сьвеце, будучы ў нармальным і цьвярозым стане, і не падумаўбы аб самой магчымасьці выдаваньня ім такіх «загадаў»).

Канцылярыя Прэзыдэнта БНР.

### АД САЮЗУ БЕЛАРУСКІХ ЖУРНАЛІСТЫХ

Урад Саюзу Беларускіх Журналістых паведамляе, што заявы аб прыняцьці ў Саюз належыць кіраваць на адрыс Старшыні Ураду: М. Раńкой, (23) Oldenburg i. O. Ohmstede — Rennplatz, DP Camp 224-F.

### АД РЭДАКЦЫІ

Рэдакцыя просіць сп. Антона Хведаровіча з Брэмэну падаць свой дакладны адрыс, бо без гэтага ня можа быць апублікаваны ягоны ліст у рэдакцыю.

### УВАГА!

**Беларуская Тэатральная Студыя**
абвяшчае
**новы набор студыйцаў.**

Беларуская Тэатральная Студыя мае на мэце рыхтаваць драматычных актораў, танцораў, сьпевакоў ды музыкаў для Беларускага Тэатру-Студыі на эміграцыі.

У Студыю прыймаюцца людзі ў веку ад 17 год, якія маюць жаданьне вучыцца й працаваць на ніве беларускага сцэнічнага мастацтва.

Апрача агульнае апекі IPO, студыйцы гэтаксама забясьпечваюцца грашовай стыпэндыяй.

Заявы й лісты дасылаць на адрыс: Auhien Kavaleuski, (13b) Osterhofen Ndb., DP-Lager, Weißruthenische Theater-Schule.

**Дырэкцыя БТС.**

## ПАВЕДАМЛЕНЬНІ

### БЕЛАРУСКАЯ БІБЛІЯГРАФІЧНАЯ СЛУЖБА (ББС)

ББС створаная адзіна дзеля зьбіраньня й перахаваньня ўсіх беларускіх выданьняў на эміграцыі. Усё гэта іншымі народамі робіцца ўжо ад самых пачаткаў выгнаньня, і ў іх навет створаныя адмысловыя фаховыя сталыя курсы ды ўтрымваюцца цэлыя штаты службоўцаў. ББС назьбірала ужо ладную колькасьць матар'ялаў, друкаваных і пісаных (газэты, часапісы, кніжкі, бюлетэні й г. д.) у Нямеччыне, Ангельшчыне, Бэльгіі, Аўстрыі, але далёка ня ўсё, каб можна было ўзяцца за ўкладаньне сыстэматычнага каталёгу.

Таму ББС зварачаецца да рэдактараў і выдаўцоў з просьбаю падаць наступныя весткі аб нашай эміграцыйнай прэсе, надаслаўшы й найменш па 1 паасобніку кажнага выданьня:

1. Калі выданьне пачало выходзіць, у якой колькасьці (калі спынілася — дык калі й чаму), а таксама й інш. падобныя весткі.

2. Найздальнейшыя рэдактары й супрацоўнікі (калі не жадаецца падаваць прозьвішчаў, дык прынамся мянушкі, якімі падпісваліся).

3. Найцікавейшыя мамэнты з часу працы ў выдавецтве: ліцэньзіі, цэнзура, палеміка, анэкдоты й г. д. (Пажаданыя фотаздымкі, калі гэткія рабіліся й пашыраліся).

Усе сьведамыя сябры й сяброўкі запрашаюцца да супрацы й падтрыманьня нашага абавязку перад будучыняй, каб не даваць загінуць сьледу працы й высілкаў нашае эміграцыі, як гэта было дасюль.

Ветліва просіцца надаслаць ББС, хто мае й можа, наступныя №№ выданьняў:

1. «Студэнцкія Весткі» № 1 за 1945 г.
2. «Пагоня» №№ 1, 2, 3 і 4 за 1946 г.
3. «Шляхам Жыцьця» № 4 і 7 за 1946 г.
4. «Крывіцкі Сьветач» № 1 (3) за 1946 г.
5. «Зь беларускага жыцьця» № 1—34 за 1946 г.
6. «На Шляху» № 1, 2, 3, 4, 5 за 1947 г. і ад № 8 далей, калі выходзілі.
7. «Беларуская Праўда» ад № 3 і далейшыя.
8. «Беларускі царкоўны голас» № 1 за 1947 г.
9. «Бюлетэнь БНП» № 1, 2, 3, 4.
10. «Беларус на Чужыне» № 7, 8, 9 і далейшыя.

Усе новыя выданьні просіцца, не чакаючы атрыманьня просьбы ББС, надсылаць па магчымасьці ў 3 паасобніках, каб адразу можна было высылаць у Чыкаго (Славянскі міжнародны аддзел бібліяграфіі) і Ватыкан, дзе ББС мае сталую сувязь і супрацоўніцтва ды спадзеецца, што там напэўна ў кажным разе матар'ялы захаваюцца (трэйці паасобнік перахоўваецца на месцы і заўсёды служыць агульна-грамадзкім патрэбам, як выстаўкі й г. д.). Таксама просіцца надсылаць усе адозвы, лістоўкі й г. д., што зьяўляюцца сярод нашага грамадзянства, або ўжо раней былі выданыя.

Усё просіцца перасылаць на адрыс: М. Раńкой (BBC), Oldenburg i. O. Ohmstede-Rehnplatz, DP Camp 224-F.

### НАРЭШЦЕ ВЫЙШАЎ З ДРУКУ ЛІТАРАТУРНА-ГРАМАДЗКІ ЧАСАПІС «САКАВІК»

**№ 1 (2) за 1948 г.**

У нумары: паэма Н. Арсеньневае, новыя вершы А. Салаўя, Я. Юхнаўца, М. Танка, М. Вярбы, Р. Крушыны, недрукаваныя дагэтуль вершы У. Дубоўкі, Л. Геніюш, У. Жылкі, мастацкая проза (навэлі, апавяданьні й да г. п.) В. Бірыча, Л. Вароніча, Н. Змагаркі, С. Хмары, М. Лагоды, З. Алесіча, драм. этуд А. Кавалеўскага, пераклады з Дэ-Лем'ена, Г. Гаўптмана, У. Сараяна, Г. Х. Андэрсэна, артыкулы М. Вольнага, М. Тэна, Р. Склюта, праф. Л. Акіншэвіча, С. Брагі, М. Грыбяля, зацемкі.

**Цана 7.— н. м.**

Выпісаць можна праз адміністрацыю «Бацькаўшчына».

**Выйшла з друку**

### БЕЛАЯ КНІГА

Выпуск I

**Цана 3.— н. м.**

Выпісваць праз адміністрацыю «Бацькаўшчыны».

## ШУКАЮЦЬ...

**Кошт абвесткі — па аднэй марцы за кажнае паасобнае слова. Аплата наперад.**

Сыноў **Пэнда Мячыслава й Аляксандра, Рокача Мірона** — Пэнда Мікалай. Весткі на адміністрацыю «Бацькаўшчыны».

Сям'ю **Галай** у складзе бацькі **Антона** з 1901 г., маці **Анастасеі** з 1905 г., сына **Андрэя** з 1927 г., і прыемніцы **Вольгі Пятрушэня** з 1936 г., перад нямецка-савецкай вайной жылі: горад Старыя Дарогі, Стара-Дарожскі раён, Менская Акруга, БССР, на Школьный вул. № 16; у кастрычніку 1944 г. прыбылі й былі яшчэ ў 1945 г. у Нямеччыне (2) Laufstad, Kr. Frideberg, Neumark. Весткі на адміністрацыю «Бацькаўшчыны».

Пляменьніка **Кіцьку Андрэя** з Парплішчыны — Стафан Жызьнеўскі. Весткі на адрыс: Stefan Żyźńieŭski, D.P. Lager ABC (20b) Immendorf bei Braunschweig.

Бацькоў **Жэрка Юльляна й Паўліну** зь Вялікае Лысіцы, Нясьвіскага раёну, і **знаёмых** — Жэрка Юльлян. Весткі на адрыс: (13 a) Schalkhausen 80, bei Ansbach.

Whiteruthenian Newspaper „The Fatherland"
Authorized by Headquarters European Command Civil Affairs Division APO 757, A. G. 383, 7 GEC-AGO.
Administration — (13b) Osterhofen, Ndby., Whiteruthenian D. P. Camp.
Printed by: Hils & Maier, Dingolfing, Bruckstraße 99.